 

# КРАКАЎ 1914 г.

(Працяг са стар. 1)

з'ездзіў да Ганецкага, які жыў тады ў Пароніне, расказаў аб здарэнні. Ганецкі неадкладна даў тэлеграму сацыял-дэмакратычнаму дэпутату Марэку, Уладзімір Ільіч даў тэлеграму ў кракаўскую паліцыю, якая ведала яго як эмігранта. Ільіч непакоіўся, як мы ўдвух з маці застанемся ў Пароніне, адны ў вялікім доме, і ён дамовіўся з Т. Ціхамірнавым, што той на нейкі час пасяліцца ў нас у верхнім пакоі. Ціхамірнаў нядаўна вярнуўся з аланецкай ссылкі, і рэдакцыя «Праўды» паслала яго ў Паронін адпачыць, прывесці ў парадак расстроеныя ў час ссылкі нервы і, дарэчы, дапамагчы Ільічу ў справе складання зводкі ў сувязі з праходзячай кампаніяй за рабочы друк і інш. на аснове матэрыялаў, друкаваных у «Праўдзе».

Мы з Ільічом прасядзелі ўсю ноч, не маглі заснуць, надта было трывожна. Раніцай я правяла яго, вярнулася ў апусцеўшую кватэру. У той самы дзень Ганецкі наняў нейкую арбу і ў ёй даехаў да Новага Тарга, дабіўся сустрэчы з акружным начальнікам — імператарска-каралеўскім старастай, наскандаліў там, расказаў, што Ільіч — член Міжнароднага сацыялістычнага бюро, чалавек, за якога будуць заступацца, за яго жыццё прыдзецца адказваць, бачыў судовага следчага, яму таксама расказаў, хто такі Ільіч, і атрымаў для мяне дазвол на сустрэчу на другі дзень. Пасля прыезду Ганецкага з Новага Тарга мы склалі ў Вену ліст да члена Міжнароднага бюро, аўстрыйскага сацыял-дэмакратычнага дэпутата Віктара Адлера. У Новым Таргу я атрымала сустрэчу з Ільічом. Нас пакінулі адных, але Ільіч мала гаварыў (становішча было яшчэ зусім незразумелым). Кракаўская паліцыя дала тэлеграму, што западазраваць Ульянава ў шпіянажы няма падставы, такую ж тэлеграму прыслаў Марэк з Закапанэ, ездзіў у Новы Тарг заступацца за Ільіча адзін вядомы польскі пісьменнік. Даведаўшыся аб арышце Ільіча, Зіноўеў, які жыў у Закапанэ, неадкладна, нягледзячы на праліўны дождж, даехаў на веласіпедзе да старога народавольца паляка д-ра Длускага, які жыў ў 10 вярстах ад Закапанэ. Длускі зараз жа наняў фаэтон і паехаў у Закапанэ, стаў тэлеграфаваць, пісаць пісьмы, пайшоў дзесьці на перагаворы. Мне давалі спатканне кожны дзень. Раніцай шасцігадзінным цягніком я выязджала ў Новы Тарг — ехала гадзіну, пасля да гадзіны дванаццатай шлялася па вакзале, пошце, рынку, пасля была гадзінная сустрэча з Уладзімірам Ільічом. Ільіч расказваў аб сваіх турэмных сужыцелях. Сядзела многа мясцовых сялян, хто за тое, што пашпарт пратэрмінаваны, хто за тое, што налогу не ўнёс, хто за спрэчкі з мясцовымі ўладамі; сядзеў нейкі француз, нейкі чыноўнік — паляк, які дзеля таннасці праехаўся па чужым пашпарце, цыган, які праз сцяну турэмнага двара перакліkаўся з жонкай, якая прыходзіла пад турэмны мур. Ільіч успамінаў сваю шушэнскую юрыдычную практыку сярод сялян, якіх вызваляў з усялякіх цяжкіх становішч і арганізаваў у турме своеасаблівую юрыдычную кансультацыю, пісаў заявы і гд. Сужыцелі па турме гаварылі на Ільіча «бычы хлоп», што значыць «моцны мужык». «Бычы хлоп» памалу акліматызаваўся ў турме Новага Тарга і прыходзіў на спатканне больш спакойным і ажыўленым. У гэтай крымінальнай турме па начах, калі засынала яе насельніцтва, ён абдумваў, што зараз павінна рабіць партыя, якія меры трэба прыняць дзеля таго, каб абярнуць выбухнуўшую вайну ў міравую схватку пралетарыята з буржуазіяй. Я перадавала Ільічу ўсе тыя навіны аб вайне, якія мне толькі ўдалося здабыць. Не перадала толькі наступнага. Аднойчы, вяртаючыся з вакзала, я чула, як сялянкі, што ішлі з касцёла голасна — мабыць мне на пачуэнне — гутарылі аб тым, што яны самі змогуць расправіцца са шпіёнамі. Калі начальства нават выпадкова выпусціць шпіёна, яны павыколваюць яму вочы, выражуць язык і гд.

Было зразумелым: заставацца ў Пароніне, калі звольняць Уладзіміра Ільіча, нельга. Я стала адкладаць тое, што неабходна будзе ўзяць з сабой, а што пакінуць у Пароніне. Гаспадарка ў нас зусім разладзілася. Хатнюю работніцу, якую прыйшлося ўзяць на лета ў сувязі з хваробай маці, і, якая расказвала суседзям усялякія небыліцы пра нас, пра нашы сувязі з Расіяй, я, выдаўшы ёй грошы на дарогу і зарплату наперад, пастаралася як найхутчэй сплавіць у Кракаў, куды яна ўсё імкнулася. Паліць у рускай печцы і хадзіць за прадуктамі дапамагала нам дзяўчынка суседкі. Мая маці, якой было ўжо 72 гады, надта дрэнна адчувала сябе. Яна бачыла, што нешта здарылася, аднак не магла ўсвядоміць сабе, што іменна. Хаця я ёй сказала, што Уладзіміра Ільіча арыштавалі, яна ўсё ж-такі часам гаварыла, што яго мабілізавалі на вайну; яна перажывала, калі я выязджала з дому: ёй здавалася, што я недзе знікну, як знік Уладзімір Ільіч. Наш сужыцель Ціхамірнаў задуменна курыў, разглядаў і парадкаваў кнігі. Аднойчы мне трэба было ўзяць насведчанне ад таго селяніна — панятога, над кім здзекаваўся жандарм у часе вобыску. Я хадзіла да яго дзесьці на край вёскі, і доўга мы размаўлялі з ім у яго хаце — тыповай беднацкай хаце аб вайне, аб тым, што гэта за вайна і хто за што ваюе, хто зацікаўлены ў гэтай вайне. Пасля ён па-сяброўску праводзіў мяне.

Урэшце, націск з боку венскага дэпутата Віктара Адлера і львоўскага дэпутата Дыяманда, якія паручыліся за Уладзіміра Ільіча, уздзейнічаў, і 19 жніўня Уладзімір Ільіч быў выпушчаны з турмы. Раніцай я, як заўсёды, была ў Новым Таргу. На гэты раз мяне нават прапусцілі ў турму дапамагчы забраць рэчы. Мы нанялі арбу і паехалі ў Паронін. Там прышлося праждаць яшчэ тыдзень, пакуль удалося атрымаць дазвол пераехаць у Кракаў. У Кракаве мы пайшлі да той гаспадыні, у якой раней наймалі пакоі Каменеў і Інесса. Палова кватэры была занята санітарным пунктам, аднак гаспадыня адступіла нам сякі-такі куток. Ёй было, зрэшты, не да нас. Толькі што прайшоў першы бой пад Краснікам, у якім удзельнічалі яе два сыны, што пайшлі на вайну добраахвотнікамі, і яна не ведала, што з імі.

На другі дзень з акна гасцініцы, куды мы перабраліся, мы наглядалі страшэннае відовішча. Прыехаў цягнік з Красніка, прывёз загінуўшых і параненых. За насілкамі беглі родныя тых, хто прымаў удзел у баі пад Краснікам і заглядалі ў твары нежывых і паміраючых з баязню пазнаць у іх сваіх блізкіх. Тыя, хто быў лягчэй ранены, з перавязанымі галовамі і рукамі, самі памалу ішлі ад вакзала. Сустракаўшыя цягнік дапамагалі ім несці рэчы, падносілі ім піва ў кубках, узятых з суседніх рэстаранаў, падавалі ежу. Мімаволі прыходзіла думка: вось яна вайна! — а гэта быў яшчэ першы бой.



У. І. Ленін і Н. К. Крупская з пляменнікам Леніна Віктарам і дачкой дворніка Верай у садзе ў Горках. (Жнівень — верасень 1922 г. Горкі)

# Старадаўнія вялікодныя звычаі ў беларусаў

(Этнаграфічныя матэрыялы)

Вялікодныя абрады і звычаі ў цыкле гадавых народных свят займаюць адно з найважнейшых звенняў. Гэтыя абрады і звычаі арганічна звязаны з прыходам вясны, з сонечным веснавым уздымам.

У далёкія, дахрысціянскія часы, сучасны хрысціянскі вялікдзень, назва якога народная, старая і нехрысціянская — гэта было вялікае народнае веснавое свята, прысвечанае прабуджэнню і прыходу вясны, культу сонца і тым сілам усемагутнай і таямнічай прыроды, якія ўздзейнічаюць на пладаноснасць зямлі, якія даюць добры ўраджай, прыплод жывёлы, ахоўваюць чалавека і жывёлу ад хвароб і няшчасця. Адначасова было гэта свята памёршых продкаў.

У гэтым артыкуле мы пастараемся высветліць тыя найстарэйшыя і наймацнейшыя элементы ў абраднасці і вялікодных звычаяў у беларусаў, якія шляхам традыцыі перанесены вякамі аж да нашых часоў, да нашага стагоддзя. Прааналізаваўшы этнаграфічныя матэрыялы, друкаваныя і цяпер збіраныя ў народзе, якія адносяцца да вялікоднага цыкла, мы без ніякага сумнення выяўляем наступныя і наймацнейшыя элементы, а іменна:

а) блізкую і арганічную сувязь чалавека з прыродай і з яе сіламі, якім ён падпарадкоўваецца, пакараецца і часта баіцца іх;

б) прабуджэнне і ўрачысты прыход вясны;

в) лячэбная моц вады, агня і ветру;

г) асаблівы культ сонца і яго сімвала — яечка;

д) аграрны элемент;

е) культ памёршых;

і ж) гульні і розныя забавы, звязаныя з вялікодным святам.

Вялікдзень і да апошніх дзён захаваўся ў практыцы і свядомасці народа як свята вельмі вялікае, важнае і ўрачыстае. Беларус, як і іншыя народы, рыхтаваўся да гэтага свята фізічна і псіхічна яшчэ загадзя. Гэтае свята хвалявала ўсіх: ад дзіцяці да старога. Хрысціянства, намагаючыся надаць гэтаму народнаму «паганскаму» святу вясны свой хрысціянскі змест і змяніць некаторыя формы, не змагло на працягу доўгіх вякоў выкарчаваць найбольш істотныя народныя старадаўнія элементы, якія па сённяшні дзень ствараюць моцны шкілет гэтага свята. Беларус змог «паставіць Богу свечку, а чорту качарэжку». Ён дасканала згарманізаваў адвечныя народныя элементы з навейшымі, хрысціянскімі. Калі праглядваем вялікодныя звычаі і абрады, то бачым гэтае спалучэнне. Агляд вялікодных звычаяў фактычна належыла б пачаць ад «Выклікання вясны», г. зн. ад 8 сакавіка. Дзеля таго аднак, што багацтва і разнароднасць матэрыялу празмерна вялікая, то распачнем ад Вербніцы і закончым на чацвертым дні Вялікадня, г. зн. на Градавой Серадзе.

Вербніца. У гэту нядзелю людзі, спаткаўшыся, ўзаемна сцёбаюць адзін другога галінкай вярбы, прыгаварваючы нейкія «магічныя» словы. А маці раніцай, у гэту нядзелю будзіць дзетак на снеданне, і, небалюча сцёбаючы галінкай вярбы, кажа:

«Не я б'ю, вярба б'е,
За тыдзень Вялікдзень!
Хіра ў лес, а здароўе ў косці..»

А ўсе іншыя, сцёбаючы вярбой, прыгаворваюць:

«Не я б'ю, вярба б'е,
За тыдзень Вялікдзень,
Будзь здароў, як вада,
Будзь багат, як зямля!..»

Якія ж вялікія якасці прыпісваюцца вадзіцы і зямельцы! Як бачым, галінка вярбы ў гэты дзень прыдбала нейкую чарадзейскую моц.

Прынёсшы з царквы ці з касцёла свянцоную вярбу, клалі яе за абразы, або затыкалі пад столь і там яна заставалася аж да патрэбы. Як бачым, сам дотык галінкі вярбы лечыць чалавека, лечыць жывёлу. Праганяе хіру (хваробу) ў лес і заганяе здароўе ў косці. Яна, гэта чарадзейская галінка, адганяла нячыстую сілу ад чалавека, яна ахоўвала жывёлу ад ведзьмаў і чараўніц, яна адварочвала цёмныя градовыя хмары ад хвалюючыхся збожжам сялянскіх ніў.

Прыведзеныя ніжэй матэрыялы падцвярджаюць сказанае. Каб вярнуць здароўе хвораму, хапала дакрануцца галінкай да яго, або хворыя глыталі катанкі з галінкі вярбы, як мы сёння пілюлі ад грыпу. Руплівая гаспадыня, выганяючы першы раз вясной у поле сваю кароўку, сцёбала яе галінкай свянцонай вярбы, абкурывала дымам з коцікаў вярбы сваю карміцельку — Красулю, каб такім чынам забяспечыць яе ад чараўніц і драпежнага звера. Нябошчыку давалі ў руку галінку вярбы, каб ён, ідучы на той свет, мог абараняцца ад нячыстай сілы, якая зарыцца на яго душу. Дбайны гаспадар, абыходзячы на Вялікдзень сваё поле, затыкаў у глебу галінку вярбы, каб забяспечыць пасевы ад града і навальніцы, адначасова складаў зямельцы — маці дары: закопваў у глебу косці ад свянцонага мяса, а таксама закопваў яечка-крашанку, сімвал жыцця і сонца, як найдаражэйшую дань.

У купальскую ноч кожная гаспадыня затыкала галінку вярбы пад дзвярыма хлява, каб гэтакім чынам адстрашыць ведзьмаў і чараўніц, якія ў гэтую ноч намагаюцца прабрацца ў хлявы і «псуць» кароў. Як бачым, хрысціянская «пальма» ніякай ролі не грае ў народнай практыцы. Уся чарадзейская сіла належыць да старадаўняй народнай вярбы.

Якія ж мы знаходзім народныя старадаўнія элементы ў перадвялікадныя дні, г. зн. у Вялікі Чацвер, Пятніцу і Суботу? Тут выяўляюцца перад усім лячэбныя і аграрныя элементы.

**Чысты Чацвер.** Хрысціянскі змест прыдае гэтаму дню простае значэнне: малітва ў святынях і падрыхтоўка да Вялікадня. Беларус дасканала годзіць хрысціянскія элементы са сваімі народнымі, якія глыбокімі карэннямі сягаюць у грунт старадаўнасці. Царква царквой, прыборка ў хаце, мыццё хатніх прыладаў, убогай мэблі і г. д. Але асноўнае ён ведаў, што ў Чысты Чацвер, каб пазбавіцца чыраў і іншых хвароб, ды забяспечыцца на цэлы год ад хвароб, трэба ў момант усходу сонца акунуцца ў рэчцы ці ў лужыне, нават і тады, калі б начнымі прымаразкамі «была вадзіца сцягнута». Добры гаспадар ведаў, што ў Чысты Чацвер трэба абавязкова заворваць. Калі няма магчымасці заараць цэлых гоняў, то трэба прагнаць хоць пару баразён. Гэтым ён забяспечваў будучыя пасевы ад дзікага зелля і ад шкоднай мошкі, якая паядае лісткі і падгрызае карэньчыкі ў раслін.

**Вялікая Пятніца** таксама праходзіць у падрыхтоўцы гаспадароў і гаспадынь да вялікага свята. У гэты дзень ва ўсіх настрой знешне сумны, сур'ёзны, але ў душы радасна, бо прыбліжаецца доўга чаканае свята, якое пры-

(Працяг на стар. 6)



 

# ШКОЛА і ЖЫХАРЫ ВЁСКІ

Вучні многіх школ вывучаюць геаграфію, гісторыю, біялогію і іншыя прадметы і нядрэнна ведаюць матэрыял па гэтых дысцыплінах. Яны беспамылкова арыентуюцца на фізічнай карце, без запінкі назавуць выдатных гістарычных дзеячоў.

Гэта вельмі добра. Але ў той час даводзіцца часта сустракацца з такімі фактамі, калі вучні многіх школ не ведаюць, з якімі паветамі мяжуе іх павет, а таксама нічога не ведаюць з гісторыі сваёй вёскі, аколіцы.

Каб пазбегнуць таксама недахопу, настаўніцкі калектыў валілаўскай школы, і ў першую чаргу яе кіраўнік Ян Сянкевіч, многа ўвагі ўдзяляюць прывіццю вучням любві да сваёй вёскі, аколіцы. Вось таму школа арганізуе спатканні з людзьмі, якія ведаюць гісторыю сваёй вёскі.

З вялікім зацікаўленнем вучні слухалі расказ Янкі Сарачынскага, аднаго з старэйшых жыхароў вёскі, аб мінулым Валіл і аколіцы. А гэтыя аколіцы маюць багатую гісторыю.

У 1863 годзе пад вёскаю Валілы ў Перацёсах народныя паўстанцы пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага змагаліся з царскім войскам. У гэтай бітве загінула шмат паўстанцаў. Яны пахаваны ў брацкай магіле, на якой стаіць помнік. І гэтай магілай апякуецца гарцэрская дружына валілаўскай школы. На магіле растуць кветкі. Заўсёды там парадак. 12 кастрычніка ў дзень Войска Польскага, уся школа складае вянкі на гэтай магіле, а настаўнікі расказваюць аб дзейнасці Кастуся Каліноўскага, радзімая вёска якога знаходзіцца не так далёка ад Валіл. Вельмі цікавая хроніка аколіцы вядзецца Янам Сянкевічам.

### УРЫЎКІ З ХРОНІКІ

Вучні даведаліся, што ў далёкім мінулым аколіцы Валіл былі пакрыты пушчай. Доказам гэтага з'яўляюцца рогі аленя і лося, знойдзеныя ў 1955—56 навучальным годзе ў адлегласці 150 метраў ад школы на месцы, званым могілкамі, у яме, з якой бралі жвір. Захоўваюцца яны ў канцылярыі школы.

У далёкім мінулым у час вялікай буры на месцы сённяшняй вёскі Валілы было вывалена з карэннямі многа дрэў. І таму назва вёскі Валілы паходзіць ад слова «валіць».

Першыя жыхары вёскі, якія з'явіліся прыблізна ў першай палавіне XVII стагоддзя, вымерлі ад халеры і былі пахаваны на месцы, якое завуць цяпер «могілкамі».

Пазней жылі тут прыгонныя сяляне, вызнаўцы праваслаўнай і ўніяцкай рэлігій.

На месцы, дзе цяпер забудаванні ПГР Валілы, быў маёнтак памешчыка. Там стаялі бровар, гарэльня і канюшні. У вёсцы Валілы быў збожжавы магазін памешчыка, з якога вясною і летам пазычаў ён збожжа прыгонным сялянам за адробак.

У 1912 годзе каля вёскі праходзілі войскі Напалеона па так званым «Напалеонаўскім тракце». А ў аколіцы Валіл, у Каралеўскім стойле, Напалеон затрымоўваўся на адпачынак. Яшчэ і сёння можна знайсці пад мохам недагніўшыя пні спіленых дрэў, з якіх была пракладзена дарога ў багністым лесе. Пазней Напалеонаўскі тракт стаў важным шляхам для купцоў і гандляроў.

У вёсках, распаложаных па Напалеонаўскім тракце, былі корчмы, заездныя двары і начлежныя дамы.

### НАСТАЎНІКІ І МОЛАДЗЬ

Цяжка пераацаніць ролю мастацкай самадзейнасці на вёсцы. Яна дае магчымасць арганізаваць культурны адпачынак моладзі, садзейнічае згуртаванню калектыву, развівае пачуццё прыгожага. У Валілах з'яўляецца яна добрым стымулам у вучобе, бо там больш 20 членаў мастацкай самадзейнасці, якія не мелі падставовай адукацыі, ходзіць у школу і ў хуткім часе будзе трымаць экзамены за 7 класаў.

Настаўнікі шмат дапамагаюць моладзі падняць мастацкую самадзейнасць на вышэйшы ўзровень.

У мінулым годзе самадзейныя артысты выступалі на сцэне з беларускай п'есай «Мікітаў лапаць». Цяпер рыхтуюць некалькі гумарэсак і п'есу «Кайце». Усе сходы моладзі, рэпетыцыі і выступленні адбываюцца ў школе. Вядома, гэта перашкаджае ўтрыманню адпаведнай чысціні, а таксама шмат клопатаў маюць з гэтым настаўнікі. І вось таму моладзь супольна з настаўнікамі зрабілі ўжо першыя крокі, каб арганізаваць грамадскім чынам святліцу. У Валілах ёсць пакінуты дом, які пасля рамонту будзе добрым культурным цэнтрам вёскі.

**М. ХМЯЛЕЎСКІ**

# НЯПРОША

Па вуліцы ідзе чалавек. Можна яму «даць» 30—35 гадоў. Левая рука не ўсаджана ў рукаў паліто. Яна проста звісае і, здаецца, зусім безуладная. Чалавек затрымаўся, падцягнуў правай рукою левую палу паліто ўперад, пашчупаў левае плячо. А потым здаровай рукою пачаў варушыць і церці пальцы на хворай руцэ. Аб чымсьці прызадумаўся. На ягоным бледным і непабрытым твары відаць вялікі боль, боль глыбокі, ад сэрца. У ім крыецца заклапочанасць за лёс сваіх маладых гадоў...

Таргові дзень. На рынку ў мястэчку поўна людзей. Гоман розных галасоў раздаецца навокал. Каля няшчаснага чалавека з хворай рукою праходзяць многія. Іх пачырванелыя ад лёгкага марозу твары не выражаюць спачування. Але што яно дапамагло б? Дзве вучаніцы прайшлі міма, моўчкі азірнуліся на няшчаснага і прадоўжылі размову аб сваёй сяброўцы. Некалькі старэйшых жанчын затрымалася каля плоту і, узіраючыся на паволі ідучага з хворай рукою, пачалі размову. Чуваць былі толькі некаторыя словы: «...гэты нажавік, каб ён..., змарнаваў жыццё Янку..., але як ён будзе гадаваць сваіх дзетак...» Жанчыны, відаць, ведаюць добра гэтага чалавека, калі называюць яго імя. З іх гэтых некалькіх слоў можна было зарыентавацца, што чалавек мае знявечаную руку і то не ад вайны.

### РАСКІНУЛАСЬ МОРА ШЫРОКА

Мікола Хрэноўскі выдаваў дачку замуж. Вяселле было ўлюбёнай тэмай размоў усіх жыхароў Белявіч. «А як, а што, а калі? Ці папросяць мяне (нас) на вяселле?» Такія «пытанні» хвалявалі людзей.

Хаця падрыхтоўка да вясельнай урачыстасці была добрая, але, вядома, на вяселле гаспадар не мог запрасіць усіх са сваёй вёскі. Па-за вясельнай ура-



На здымку група курсантаў.
фота аўтара

# КУРС СТАРШЫНЬ і САКРАТАРОЎ ЗМВ

Ад 20 да 25 сакавіка ў Белавежы адбыўся курс старшынь і сакратароў гурткоў ЗМВ Бельскага і Гайнаўскага паветаў.

Курс арганізавалі паветовыя праўленні ЗМВ Гайнаўкі і Бельска, каб дакладна пазнаёміць кіраўнікоў гурткоў з новай праграмай дзейнасці нашага Саюза. Выкладчыкамі на курсе былі лепшыя дзеячы абодвух паветаў і Ваяводскага праўлення ЗМВ у Беластоку. Курс прайшло больш 100 асоб моладзі, з таго пераважная частка беларускай. На лекцыях моладзь сустрэлася з I сакратарамі ПК ПАРП і ЗСЛ Бельскага і Гайнаўскага паветаў, якія гаварылі аб ролі і заданнях Партыі ў сучасны момант; з кіраўнікамі сельскагаспадарчых арганізацый, брацкіх маладзёжных арганізацый ЛЗС і ЛПЖ; з кіраўнікамі ПЗГС-аў і прадстаўнікамі іншых установ і арганізацый, якія пазнаёмілі прысутных з сваёй праграмай дзейнасці.

У праграму курса былі ўключаны не толькі лекцыі, але і культурныя мерапрыемствы. Моладзь наведала Белавежскі музей і запаведнік. Некалькі разоў пабывала ў кіно.

На заканчэнне курса адбылася сустрэча моладзі з намеснікам старшыні Ваяводскага праўлення ЗМВ сябрам Валяноўскім і сябрам Какарко, які расказваў аб развіцці турыстыкі і аб планах на будучыню, а таксама з Гертрудай Цюпуўнай — старшынёю рады сяброўак ВП ЗМВ, якая правяла вельмі цікавую гутарку з моладдзю. Курсантаў наведаў таксама кіраўнік мастацкай самадзейнасці пры ВП ЗМВ Гратоўскі. Ён звярнуўся да моладзі з заклікам арганізоўваць і разгортваць самадзейніцкі мастацкі рух на вёсцы і карыстацца ў працы дапамогай кансультацыйнага аддзялення па справах мастацкага руху (Порадні руху артыстычнэго) ВП ЗМВ.

25 сакавіка пасля агульнага абеду моладзь з жалем развіталася і раз'ехалася ў свае вёскі. Яна павезла з сабой шмат успамінаў і новых ведаў з гэтага першага такога роду курса - падрыхтоўкі, дзе на працягу 5-ці дзён мела магчымасць расказаць аб сваёй працы і засвоіць вопыт іншых актывістаў Бельскага і Гайнаўскага паветаў.

**ВІКТАР АСТРОЎСКІ**
в. Плюцічы,

(Працяг са стар. 2)

Я аддзякаваў старога за прыемную навіну і пайшоў да сябе. Але праз дзве гадзіны Фама Філімоныч сам прыйшоў да мяне.

— Цецерукоў будзеце есці на абед, — аб'явіў ён. Ён ведаў, як трэба трымаць сябе ў маім пакоі.

— Што, капітан вярнуўся?

— Вярнуўся. Прывалок дзічынкі крыху, на кухню здаў.

— Калі крыху, то ўсім не дастанецца.

— З паўдзюжыны будзе, не больш.

— Гэта, па-твойму, крыху?

— На трох паляўнічых? Глупства!

Я сказаў, што вінаваты тут не паляўнічыя, а месца, што лес бедны дзічынай.

Стары не згадзіўся. Ён пераконваў мяне, што дзічыны ў лесе шмат. У гэты час у пакой увайшоў капітан Губарт.

— Чым займаецеся? — спытаў ён мяне.

— А вось спрачаемся наконт палявання. Стары запэўняе, што тут дзічыны шмат, толькі ніхто не ведае, як яе знайсці.

— А ты-та сам ведаеш? — звярнуўся Губарт да Фамы Філімоныча.

— А чаму я не павінен ведаць! Вядома, ведаю. Дваццаць гадоў хаджу па лесе.

Губарт бесцырымонна ўсеўся на мой ложак і закурыў.

87

— Ты толькі месца ведаеш ці сам паляўнічы? — пацікавіўся ён.

— Я патомны паляўнічы, — адказаў стары.

— Чаму ж ты мне да гэтых пор не паказаў добрых месц?

— А што вам паказваць! У вас і без мяне ёсць праваднік?

— Гэта хто ж праваднік?

— А Пахітун... Каб такі праваднік у стары час майму пану трапіўся, ён яму паказаў бы. Ей богу!

— А хто быў твой пан?

— Пан мой быў чалавек правільны і паляўнічы дасканалы, царства яму нябеснае. Карл Карлавіч Эдэнберг.

— О-о!.. Ты ў Эдэнберга служыў?

— Не служыў, а працаваў. Дзесяць гадкоў працаваў. Гэта быў паляўнічы! Цяпер такіх не сустрэнеш, куды там! Без мяне бывала ў лес ні кроку... А то Пахітун! Ха!

— Прыдзецца ўзяць цябе на паляванне. Пагляджу, які ты егер і за што цябе трымаў Эдэнберг.

Ён устаў з ложка і сказаў, каб я зайшоў да яго праз поўгадзіны. Калі я зайшоў у кабінет Губарта, ён аб'явіў, што праз некалькі дзён павязуць мяне на перакідку. Я не здзівіўся. Па ходу справы адчувалася, што маё прабыванне на даследчай станцыі набліжаецца да канца.

88

З заўтрашняга дня мяне пачнуць рыхтаваць да скачкоў з парашутам. Паведаміўшы гэта, Губарт выйшаў і сказаў, што зараз вернецца. Мне гэта выдалася дзіўным. На стале Губарта ляжалі розныя паперы, шыфраваныя тэлеграмы, гербавая пячатка. «Забыўчывасць наўмысная, — вырашыў я. Праверка не спыняецца ні на адзін дзень. Ну што ж...» Хапіла б мне працягнуць руку — і любы дакумент быў бы ў мяне. Але я нават не паварухнуўся. Відавочна, рэчы разложаны з такім разлікам, каб можна было выявіць, да чаго я датыкаўся. Магчыма і тое, што Губартназіраў за мною з нейкага месца.

Я сядзеў непарушна, робячы выгляд, што ўглыбіўся ў роздум. Увайшоў Губарт. Ён падаў мне лісток паперы, на якім былі напісаны шэсць прозвішчаў і адрасы рэкамендаваных для «работы» асоб. Іх я павінен быў адшукаць на нашым баку.

— Яны будуць ведаць толькі вас аднаго, — сказаў Губарт, — адзін другога не ведаюць. Запамятайце даныя аб кожным з іх, а запіску знішчыце. Паролі папярэднія.

Затым Губарт сказаў мне навіну, якая мяне вельмі ўстрывожыла: наладжана радыёсувязь з Курковым. Ужо праведзены тры двубаковыя сеансы.

89

